№ 13 (155). Rok XI. „SZLACH MOŁADZI“ Wilno, 15.VII.1939.




# ШЛЯХ МОЛАДЗІ
# ŠLACH MOŁADZI
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

№ 13 (155). Вільня, 15 Ліпня 1939 г. Год XI.




## АДЗІН З ШЛЯХОЎ ДА ПАЛЕПШАНЬНЯ БЫТУ

Чалавек найбольш думае аб спосабах палепшаньня быту тады, калі яму жывецца цяжка. Гэтая праўда між іншым праявілася і ў Англіі, калі безработныя рочдальскія ткачы прымушаны былі шукаць выхаду з свайго цяжкога палажэньня. І выхад яны знайшлі, закладаючы супольнае ткацкае прадпрыемства, якое сваей формай супалкі дало пачатак ведамай усім нам коопэрацыі.

Цікава, што коопэрацыя найбольш пашыралася ў нас такжа ў часы найцяжэйшыя. Зараз пасьля вайны паўстала ў нашым краі цэлая сетка коопэратываў спажывецкіх, якія рабілі вялізарныя абароты. Але пакрысе людзям стала лягчэй жыць і яны перасталі зварочваць належную ўвагу на коопэрацыю,— коопэратывы-ж адна за другой ліквідаваліся. Бязумоўна, прычынай гэтага было ня толькі палепшаньне палажэньня, але й тое, што масы не змаглі належна ацаніць коопэрацыі, зразумець яе, ня былі так-жа да працы ў коопэрацыі падгатаваныя тыя людзі, каторыя кіравалі коопэратывамі, а з якіх некаторыя нават з коопэратываў рабілі рознымі, часта нячэснымі спосабамі, свае прыватныя крамкі. Такім чынам, па даволі многіх коопэратывах і сьледу не асталося, а памяць аб іх у народзе асталася вельмі няпрыемная.

Пасьля аднак некалькі-гадняга сякога-такога лепшага палажэньня эканамічнага наступіў агульны цяжкі эканамічны крызыс, які прыдушыў людзей. І што-ж бачым? — Бачым паварот да коопэрацыі. Людзі йзноў пачалі закладаць коопэратывы. Аднак абставіны моцна зьмяніліся. Так напрыклад, калі яшчэ ў 1921, 1922 годзе закладзіны коопэратываў не напатыкалі на ніякія перашкоды, дык ужо пасьля 1928, 1929 г. было многа выпадкаў, што Беларусам, каторыя хацелі закладаць коопэратывы, проста адміністрацыйныя ўлады не давалі дазволу на арганізацыйныя сходы. Апрача таго, калі раней мясцовая коопэрацыя, напрыклад на землях заселеных Беларусамі, мела магчымасьці арганізаваць сваю базу самастойна, аўтаномна ў краі, дык цяпер кожная бадай коопэратыва змушаная да цэнтралізацыі, ніткі якое бягуць у Варшаву. З гэтага, ясна, вялікія карысьці мае цэнтр гаспадарства, а затое коопэрацыя на мясцох ня можа выканаць належнае сабе ролі. Ня гледзячы на такія нявыгоды, коопэрацыя хоць вельмі, вельмі памалу, але пашыраецца. Паўстаюць пакрысе коопэратыўныя малачарні, коопэратывы спажывецкія, а часамі нават і рамесьніцкія.

Коопэратыўная сьведамасьць у народзе агулам павялічылася, але ня ўсюды. Вось напр. ведаю адну мясцовасьць, дзе была спажывецкая коопэратыва ў 1921 годзе і нейкі час добра працавала, але пасьля зьліквідавалася. Там так-жа паўстала коопэратыва нанова пару год таму. Розьніцу можна заўважыць такую: першую коопэраву ейны кіраўнік ператварыў у прыватную крамку, а кіраўнік другое коопэратывы справіў ужо сабе добрую гармонь, на якой іграе пахавальны марш коопэратыве... У той-жа самай мясцовасьці паўстала некалькі год таму коопэратыўная малачарня, якая пад кіраўніцтвам іншае асобы разьвіваецца вельмі добра. Бачым тады, што ў коопэрацыі, у яе разьвіцьці, адыгрываюць вялікую ролю ейныя кіраўнікі. Аднак адказнасьці за няўдачы коопэрацыі ня можна скідаць толькі на кіраўнікоў. Кожнай коопэратывай павінны цікавіцца ўсе яе сябры, старацца яе падтрымліваць, кантраляваць дзейнасьць кіраўніка, а галоўнае—даручаць гэтыя функцыі людзям чэсным, грамадзкім, падгатаваным да працы ў коопэрацыі. Кантролі ня трэба стыдацца рабіць. Кантроля ўсюды, асабліва-ж у жыцьці гандлёва-прамысловым і грамадзкім неабходна патрэбная. Калі-ж будзем належна цікавіцца, належна апякавацца коопэрацыяй, выбіраць на кіраўнікоў адпаведных людзей, дык яна і ў сяньняшніх нявыгодных абставінах будзе ўсё-ж хоць крыху паляпшаць палажэньне эканамічнае, будзе ў грамадзкім духу ўзгадоўваць людзей, нясьці сьвятло й культуру.

Якія карысьці можа даць добра сарганізаваная коопэрацыя, можам пабачыць, калі будзем прыглядацца да жыцьця тых народаў, якія маюць сваю коопэрацыю. Можам гэта пабачыць прыглядаючыся хоцьбы да жыцьця братняга нам Украінскага Народу. Украінцы ў Рэчыпаспалітай Польскай маюць цяпер 2,736 коопэратываў таварных і 668 коопэратываў крэдытных. Лік сяброў усіх коопэратываў 692.767 асоб. Абароты ў коопэратывах сягаюць у год больш, як 160 мільёнаў зл. Крэдытныя коопэратывы маюць собскіх фондаў (капіталу) 6,983,737 зл. Таварныя-ж коопэратывы маюць тавараў на 17,924,762 зл. Украінскія коопэратывы вядуць гандаль з загранічнымі фірмамі і ў 1938 г.

вывезьлі масла за 91,600,000 зл., а яёк за 39,400,000 зл. Рэвізыйны Саюз Украінскіх Коопэратыў выдае 3 украінскія часапісы, вядзе вялікую работу ня толькі эканамічную, але й культурную. Ён утрымлівае 108 землямробскіх інструктараў і аграномаў, каторыя вучаць людзей, як гаспадарыць, памагаюць паляпшаць быт і г. д. Украінскія коопэратывы недапускаюць, каб цяжка запрацаваны украінскім селянінам, работнікам ці інтэлігентам грош ішоў у чужыя рукі, каб Украінцаў выкарыстывалі чужыя гандляры й align=рознага роду спэкулянты. Украінскія коопэратывы даюць працу тысячам сваіх людзей.

Вось-жа і нам Беларусам трэба засыпаць усе выбоіны, якія выбіваюць коопэрацыю з правільных шляхоў і з раўнавагі, закладаць і пашыраць коопэрацыю. Мусім заўсёды памятаваць, што коопэрацыя — гэта адзін з шляхоў, які вядзе да перабудовы сучаснага эканамічнага палажэньня, што гэта адзін з шляхоў, які вядзе народ да палепшаньня быту, да лепшага заўтра!...

Я. Н.



## „Жураўліным шляхам“

Пад такім назовам надовячы ў Вільні выйшаў, дзякуючы падтрыманьню прыяцеляў аўтора, першы невялікі зборнік вершаў Сяргея Хмары.

Чытачом „Шляху Моладзі“ імя Сяргея Хмары ведамае ўжо здаўна, з тых ягоных твораў — вершаў і артыкулаў, якія друкаваліся на нашых бачынах. Між іншым ня так даўна ў „Шл. Мол.“ была надрукаваная кароткая аўтобіографія гэтага паэта.

Хмара — гэта адзін з тых так многіх беларускіх песьняроў, каторыя, як кажа паэт, атрымаўшы „хрост у вясковай гароце праз краты, праз драты“ йшоў на паэтыцкі Парнас. Хмара яшчэ малады чалавек, а ўжо праседзяў у вастрозе, ды ў Картускай Бярозе каля 9 гадоў. Адбіцьцё гэтага ясна, знаходзім у творах яго. Апісаньне некаторых сцэнаў вастрожных, проста, сьлёзы выціскае на вачах. Вось хаця-б прыточым песьню маці над зыбкай (калыскай):

Калыхала зыбку маці,
калыхала.
— Ой, бяды ня будзеш знаці —
мне пяяла.

Будзеш ты вялікім панам
над панамі
у палацы жыць цагляным
са слугамі.

Ой, пяяла, ой, гадала,
ня мылілась —
у палацах жыву стала
з слугаў сілай.

Мне і дзьверы адчыняюць,
есьці носяць;
абмываюць, адзяваюць,
ў спацыр просяць.

Ды аднача не ўгадала
мая маці:
няма сонка залатога
усьміхацісь.

У іншым вастрожным вершы паэт апісвае вясну:

Зацьвілі за дратамі сады,
вішні ў вэлюм вясельны адзелісь;
чарапахай паўзе гуж гадзін
у маей бэтановай пасьцелі.

Нібы нечыя мілыя вочы
неба ў люфцiку сіняе, сіняе.
І хацелася-б
сіняй тэй плыні
так напіцца, напіцца да схочу.

А ў начы... сны,
манлівыя сны...
Гай зялёны чаруе, урочыць...
І дзявочыя сінія вочы...
— — — — — — — —
Не прасн уцца-б...
да іншай вясны!...

Ня глядзячы на цяжкія перажываньні, паэт поўны сілы, веры, ахвярнасьці і энэргіі:

Мы выкуць мусім дні
сэрц нашых жар-вуглямі —
ня мроямі! — рукамі!
Дні нашае вясны.

(бач. 18)

А ці-ж зможа якая
нас, байцоў, злыбяда?
Нас прадвесьнікаў мая
у зімовых лядах.

Трэба—головы зложым; —
трэба — целам, касьцьмі!
Шлях бяздоньням праложым.
Нам палаць, а ня цьміць.

(бач. 27).

# Ab Paleśsi na Varšaŭskim bruku

Jość u Polščy arhanizacyja „Towarzystwo Ziem Wschodnich“, złožanaja blizu vyklučna z roznych vysokich polskich uradoŭcaŭ. Sioleta ŭ mižčasie ad 5 da 11 červienia arhanizavała hetaje t-va h. zv. „Tydzień Ziem Wschodnich“, padčas jakoha ładzilisia roznyja zborki, dzieła „zaznajamleńnia z patrebami“ „ŭschodnich ziemlaŭ“, da jakich, jak viedama, zaličana j naša Vilenščyna, Navahradčyna, Horadzienščyna, Paleśsie i h. d. Kožnaj z hetych krainaŭ pryznačany byli adumysnyja zborki, a ab kirunku j źmieście hetych zborak śviedčać vykanaŭcy prahramy. Npr. na „Vilenskim viečary“ 11.VI vystupali „zespoły młodzieży wiejskiej“ z L. Vałejkam na čale, ideolohičny referat ab Paleśsi (9.VI) čytaŭ adv. Skurevič (krasa j hordaść „Čyrvonaj Ružy“—?). Jašče vyraźniej śviedčać ab kirunku zborak samyja temy referataŭ, jak „Rola Nowogródczyzny w dorobku kultury polskiej“, „Polesie — przyszła Polska Holandja“ i h. p. Davoli było dzieła hetaha pajści na adnu t-kuju zborku, kab vyrabić sabie paniaćcie ab usich, jak całaści. Dla prykładu, choć-by takaja zborka ŭ Varšavie praznačanaja zaznajamleńniu prysutnych z Paleśsiem.

Nievialikaja zala klubu čynoŭnikaŭ P.K.O. i taja nia zusim zapoŭniena. A ŭchod volny. Na ścienach pry ŭvachodzie bačany ŭžo dzieści plakat paleskaha pieravoźnika na čaŭnie dušahubcy. Na stoliku kuča prapahandovych drukaŭ. Haspadary zborki vietła prosiać vyrazna ŭpisacca imiem-proźviščam i adresam ŭ pradsteŭleny arkuš. Upisyvajucca tudy adnak nia ŭsie. Kruhom hutarka polskaja.

Pa ŭstupnym słovie haspadara zborki na trybunu ŭvajšoŭ advakat Skurevič, mužčyna ŭ sile vieku, krychu chramy. Havaryŭ na ŭspomnienuju ŭžo temu: „Paleśsie—budučaja polskaja Holandyja“. Dar vymovy vyrazny, kali-ž mima ŭsiaho hetaha publika... mała ŭvažnaja, dyk prypisać heta treba tolki nievykanalnaści samoha założeńnia (asnovy) temy: paraŭnańnia Paleśsia z „polskaj Holandyjaj“.

Pramoŭca kaža: polskuju racyju stanu na Paleśsi siańnia reprezentujuć: vojt, palicyja, vučyciel. Dziakujučy im — zabiaśpiečana na Paleśsi žyćcio, kraj pakryvajecca sietkaj polskich škoł, budavanych kaznoj, samaŭradam, vojskam, Polskaj Maciežaj Školnaj, pravodzicca komasacyja j melioracyja. Na dumku pramoŭcy najpilniejšaj patrebaj Paleśsia jość: dalšaja komasacyja j melioracyja, upramyšloŭleńnie ziemlarobskich haspadarak i sarhanizavańnie lekarskaj apieki. Až dva razy padčyrkivaje pry hetym

Чуеш? Ці чуеш?! Ідзе пераклічка:
Дзісна і Горадня, Бельск...
Слонім, Палесьсе. Хто іх паліча?—
голас вясковых аселіц.

Плюнулі волавам
ў вочы дзён шалых,
стальлю расплаўленых слоў.
Часу ліхому ў грудзі—кінжаламі..
Трухляць паслаўшы на злом.

. . . . . . . . . . . . . . . .

З Прыпяці шэрай,
з балотаў,
шуварaў
з пушчаў, пружанскіх лясоў;
з Нарачы тоняў, слонімскіх Імшараў,
з бельскіх, браслаўскіх пяскоў.

Чуеш, як гойкаюць? То-ж пераклічка!
Моцны мы! Цьвёрды! Жывы!
Цягліцы пружацца, сэрца крынічаць...
Мы-ж — авангард веснавы!

І сапраўды, маладняк беларускі моцны, цьвёрды, жывы, расьце й няўстрымана ідзе наперад, да лепшага заўтра. Сам Хмара так-жа вырас, вырас на паэта, змагара. І дарэмна, праз скромнасьць, кажа ён аб сваей творчасьці, што ёсьць яна „між нарцызаў —асоті,“ бяз „жадных правіл, асноваў!“ — С. Хмара ўжо апанаваў усе формы і асновы, свабодна, умела і арыгінальна карыстаецца мэтафарамі. Такой напрыклад звароткі з верша „Палесьсе:“

Трысьціне штосьь шапоча бадыль
І булькочаць крыніцаў аконцы,
ды у смужных пратоках вады
пpыглядаецца, мыецца сонца.

не пастыдаўся-б і найвялікшы паэт. Хмара разьвівае так-жа беларускую літаратурную мову, узбагачвае яе, мясцовым беларускім палескім слоўніцтвам, хоць здараюцца часамі й русыцызмы яму, як напр.: *жгуць, зьбяжалася.*



**Сяргей Хмара**

Ягулам Хмара зьяўляецца паэтам сялянска-пралетарскім. Сам ён фактычна вясковы пралетар. І пралетарскасьць праяўляецца ў многіх вершах зьмешчаных у зборніку. Між іншым зьмешчаны ў зборніку вельмі прыгожы верш „Зазванілі“, які прыпамінае крыху польскі верш „O jak poszedł król na wojnę“, аднак ёсьць наскрозь арыгінальны.

Зборнік Хмары, хоць невялікі, але вартасны. Шкада толькі, што амаль зусім не закрануты ў ім нацыянальна-беларускія праблемы. Ува ўсім зборніку мы нават не знайшлі ніводнага слова: Беларусь, або Беларус, ці беларускі. Можа гэта некаторым ужо прыелася і ўважаюць парушаньне беларускаенацыянальнае праблемы ў вершах зусім лішнім, аднак, на наш пагляд, у стадыі цяперашняга разьвіцьця беларускае нацыянальнае сьведамасьці, беларускае нацыянальнае ідэі, у сучасных нашых абставінах падчырківаньне беларускасьці, беларускае нацыянальнае ідэі патрэбнае ўсюды.

Трэба пры тым сказаць, што хоць Хмара пралетар і хоць тэматыка ягоная пераважна пралетарска сялянская, аднак вершы ягоныя сваім прыёмам, сваей формай, мэтафорычнасьцю недаступныя, незразумелыя для шырокіх народных масаў.

„Жураўліны шлях“ — прыгожа, паэтычка гучыць назоў, але жураўлі прылятаюць і адлятаюць, тымчасам Хмара глыбока ўрос-шы ў беларускія гушчы, прабывае ў іх, прабывае ня толькі вясной і летам, як жураўлі ў нашым Краі, але й зімой, цяжкой доўгай зімой. Дзеля таго хацелася-б пажадаць, каб Хмара не пайшоў жураўліным шляхам, не пакідаў ніколі беларускіх ніў, беларускага грунту, не адрываўся ад яго, не адлятаў на чужыну, а быў заўсёды з сваімі, з сваім Беларускім народам.

*Я—к*

---

pramoŭca niepraŭdzivaść i škodnaść pašyranaha pahladu, što Paleśsie—„kraina borów i moczarów“ —heta byccam vialiki prastor dziela kolonizacyi j asadnictva. Tymčasam na pryhodnaj da abrablańnia ziamli na Paleśsi siadzić nia mienš, a moža navat bolš ludziej, čym u centralnaj Polšcy. — Što datyča sučasnaha kulturnaha abličča Paleśsia, dyk pramoŭca ab vioscy nie skazaŭ ničoha, a ŭ miestach i miastečkach byccam jašče trymajecca „pokast maskoŭski“, pad trymlivany miž inš. Žydami. Žniać hety pokast pavinna, pavodle pramoŭcy, polskaja intelihiencyja, zadańniem jakoj jość usio Paleśsie spolščyć, nie dapuskajučy tudy da niadaŭna(?) jšče pranikajučych „upłyvaŭ z poŭnačy j z paŭdnia“*). Zadańnie heta pavinna mieć na voku nia tolki taja polskaja intelihiencyja, jakaja na Paleśsi stała žyvie, ale tak-ža j taja, jakaja tudy jedzie časova, napr. na letni adpačynak ci choć-by na niedaloki „Paleski Kirmaš“ u Pinsku. „Na skromnuju dumku“ pramoŭcy Polšč musić spolščyć Paleśsie j „zrabić z jaho takuju krepaść (bastjon) polskaści na ŭschodzie, jakoj jość Pamorje na zachadzie“.

Mlaŭkija vopleski j adnačasna ažyŭleńnie. Usie čakajuć druhoj časci zborki — kancertu: u afišach na vulicy j u presie padadziena, što budzie śpiavać Zabejda-Sumicki. Na zalu ŭlivajecca novaja chvala publiki, jakaja praz uvieś čas referatu stajała na kalidorach i ŭ sumiežnych pakojach.

— A-a-a...Dyk hetaž nie Zabejda.

— Zabejdy nia budzie, jon ciapier jakraz śpiavaje ŭ radyjo.

— Dyk niama čaho čakać, idziom.

— Ale raz užo siadzim tut, dyk pačakajem. Kali ŭ prahramie skazana, što budzie Zabejda, dyk chiba-ž što budzie.

Siarod ahulnaj mituśni na zali asabliva z-zadu, vychodzić niekalki čałaviek na kalidor.

U mižčasie nieznajomy śpiavak pačynaje śpiavać. U pieršuju čarhu jdzie ...„Prima vera“...

— Što? Pa jakomu heta?

— Paitaljansku. Ale što heta maje supolnaha z Paleśsiem?

— Nie, heta pa-*balandzku* (bo Paleśsie—heta „polskaja Halandyja“)— padskazvaje niejki mužčyna, jaki cełу čas usio staranna niešta sabię zapisvaje i kisła ŭśmichajecca.

Nastupnaja pieśnia: „Ja Cię kocham“, takaja samaja „paleskaja“, jak i pieršaja, — dobra tolki, što na joj končylisia vystupleńni „holendra“. Ale zaraz estrada ŭznoŭ zapoŭniłasia. Zamiest adnaho stajali ŭžo čatyry, a piaty sieŭ pry pianinie. Pačynajuć. — Što? —

— „Kujawiaczek“.

— „Ależ na Boga! Co ma piernik do wiatraka? Gdzież to Polesie?“—

*) Biełaruskich i ukrainskich, choć pramoŭca hetaha pa imieni nie nazvaŭ.

# Сталіца Беларусі—Менск

Менск — сталіца сучаснай Савецкай Беларусі. Менск—сталіца й будучай вольнай і незалежнай Беларусі.

Менск—гэта сэрца беларускага народу, ад якога па ўсім жывым народным арганізьме разыходзяцца артэрыі культурных плыняў. Без увагі на тое, у чыіх-бы ён руках не знаходзіўся, у бальшавіцкіх ці царскіх, турэцкіх ці нямецкіх, — усёроўна Менск застанецца Менскам, свойскім сэрцу Беларуса.

Вось-жа выходзячы з гэтага становішча, што ўсё беларускае зьяўляецца нам блізкім і родным, мы пастанавілі бліжэй пазнаёміць нашых чытачоў з гарадамі беларускага краю. Прыступаем такім чынам да кароткага перагляду гарадоў Савецкай Беларусі ў плошчы гістарычнай і сучаснай, да якіх нажаль сяньня ня маем ніякага доступу.

Перадусім пазнаёмімся з Менскам, каторы разлёгся па абодвых бакох рэчкі Свіслачы, якая ўпадае ў Бярэзіну. Зьяўляецца ён вузлавым пунктам жалезных дарог ,Заходняй і Беларускай, располажаным у 48 кілёмэтрах ад савецка-польскай граніцы. Менск ёсьць даволі старым беларускім горадам. Першыя летапісныя весткі аб ім знаходзім у палавіне XI веку (1066 г.). Выпадкі ваенныя на рацэ Нямізе выразна апісаныя ў старым літаратурным творы „Слова аб палку Ігаравым“.

У працягу многавяковай гісторыі Менск быў руйнаваны ваеннымі паходамі. Пачаткава Менск належыў да Полацкага княжства, але ўжо з 12 стаг. стаецца стольным горадам асобнага удзельнага Менскага Княжства, якое ў 1326 г. было далучана да Літвы. У 1505 г. напалі на Менск Татары й разбурылі яго дашчэнту. У 1793 г. разам з беларускімі землямі Менск быў захоплены царскай Расеяй, а ў 1796 г. стаўся губэрнскім горадам.

Менск ня маючы ані вялікай колькасьці насельніцтва, ані буйнейшага промыслу, нічым не вызначаўся ад іншых малых гарадоў, якія гралі ролю толькі адмін. асяродкаў. Царскім уладам, якія праводзілі колёніяльную палітыку на забраных землях, і ў галаву ня прыходзіла, каб край разбудовываць эканамічна, а гэтым самым і гарады. Такім чынам Менск быў правінцыянальным губэрнскім горадам, які шмат горш выглядаў ад Вільні. У 1856 г. у Менску налічвалася 24 тыс. насельніцтва. Але ў 1871-73 г. праводзяцца тут дзьве жалезныя дарогі: Маскоўска-Берасьцейская і Лібава-Роменская. З гэтага часу пачаў Менск пакрысе расьці й разьвівацца. Праз Менск правозіцца збожжа, дрэва на Заход Эўропы. З Заходняй Эўропы праз Менск ідуць у Расею мэталёвыя вырабы, мануфактура і г. д.

Дзякуючы гэтаму пачалі паяўляцца гандлёвыя прадпрыемствы, пачало разьвівацца дробнае рамесьніцтва і г. д. Але агулам Менск быў горадам беднаты жыдоўскай і хрысьціянскай, дзеля чаго тут яшчэ перад вайной быў



Будынак Беларускага Дзяржаўнага Тэатру Опэры і Балету ў Менску

niechta mietka z publiki zaciemiŭ.

Jak končyli „Kujawiaka“, dyk pačali: „Macieju! Coo? Dokąd jedzies?Mnie wezmies? Buziaka das?“ i h. d...

Publika vidavočna nieciarplivilasia: šum, šorach noh, hutarki... Ale ŭsio končycca. I „Dziarscy chłopcy“vychodziać(tak nazyvaŭsia heny kvartet, złožany z „chłapcoŭ“, z katorych kožnamu saračnia napeŭna daŭno ŭžo stuknuła) vietła kłaniajučysia. Za imi padyjmajecca j publika. Až raptam—stop!

Usie siadajuć na miesca. Napłyvajuć novyja ludzi z kalidoraŭ. Na estradzie stanuŭ elegancka apranieny, lohka ŭśmichnuty vysoki mužčyna ŭ sile vieku. Publika bje ŭ dałoni.

— Zabejda?.. Zabejda!..

— Heta-ž Zabejda...

—A a-a, nareščie, nu pasłuchajem.

Zala dalej bje vopleski. Śpiavak daje znak rukoj, što choča niešta skazać. Zala moŭknieć.

— Zaśpiavaju pieśniu, jakuju ja sam zapisaŭ ad svaje maci ŭ Kosaŭskim paviecie na Paleśsi,— „Małady dubočak“, u apracavańni praf. Kazury.

Pačynaje. Lijecca pieśnia, choć zrazu čuvać, što mała dla jaje pierapoŭnienaje zali. Publika spačatku vyłoŭlivaje słovy pieśni j tłumačyć ich na polskuju movu.

— *„što?“* — Ale-ž na Paleśsi kažuć *„ščo“? A „što“* — heta ŭžo Mienščyna.

— Heta pabiełarusku...

— Dyk-ža na Paleśsi j havorać pabiełarusku.

— O, vybačajcie... Pasłuchajcie, jak havorać na paŭdnia ad Bieraścia.

— Bo tam užo paŭdzionnaje Paleśsie z ukrainskim nasielnictvam, a tut, na poŭnačy, nasielnictva biełaruskaje...

— Słuchajcie, cicha...

Usio pamału moŭknie, a choć u zali stanovicca dušna, to adnak vyhladaje, jak byccam publika zamierzła, ci zakamianieła. Cišynia, choć makam siej... Lijecca tolki pieśnia... Končycca, bura vopleskaŭ.

— A ciapier na źmienu zaśpiavaju pieśniu krychu viesialejšuju: „Lacić saroka“. — I ŭznoŭ cišynia, što čuvacca navat bićcio sobskaha pulsu. Končycca...

— Bis, bis.... bis.

Na pieršy ahoń idzie „Čamuž mnie nia pieć?“ I kožny mimavoli pierachilajecca napierad, kab lepš čuć, kab nie ŭranić nivodnaha słova, usie naraz byccam chacieli-b uchłynuć u siabie čutyja huki j słovy pieśni. Uzdym raście ŭžo nia minutami, ale sekundami. Končycca pieśnia, a jej u adkaz, byccam hrad, syplucca vopleski.

— Bis, bis, bis...

Artyst varočajecca na scenu, vopleski jašče bolšyja...

— Jašče, jašče..

## Ідзе жніво...

*Сакочуць конікі.. Бялеюць жыта нівы...*
*Павісла духата над гонямі палёў...*
*І мошак сьвет зьвініць дакучлівы, гульлівы,*
*і калываюць ветрыка павевы*
*чароўны сьвет вусатых, цяжкіх каласоў.*

*Бульбы красуюцца, узорныя палосы*
*аўсоў зялёна-сівых, жоўтых ячмянёў;*
*гарох кішыць ад красак матылёў*
*і не падняць вачэй на сінія нябёсы.*

*Я. БРЫЛЬ*

---

добры грунт да работы сацыялістаў розных адценкаў.

У 1897 г.Менск меў 85 тыс. жыхароў, а ў 1920 — 104 тыс.

Як бачым, Менск паступова разрастаўся й побач з Вільняй станавіўся цэнтрам беларускага палітычнага й культурнага жыцьця. Тут адбыўся ў 1917 г. Усебеларускі Кангрэс, а 25 сакавіка 1918 г. у Менску Беларусь была абвешчаная вольнай і незалежнай народнай рэспублікай.

Пасьля захопленьня бальшавікамі ўсходня-беларускіх зямель — Менск становіцца цэнтрам - сталіцай Савецкай Беларусі, дзе гуртуецца ўсё жыцьцё палітычнае й культурнае. У такіх абставінах — хаця-не-хаця Менск мусіць разьвівацца. І ўжо паводле перапісу з 1926 г. Менск меў 121 тыс. жыхароў, а у 1933 г.— 180,9 тыс. Нацыянальны склад насельніцтва у 1933 выглядаў гэтак: Беларусаў каля 42 прац., Жыдоў—больш 40 прац., Расейцаў каля 10 прац., Палякоў каля 3 прац. і інш. каля 5 прац. Паводле перапісу з 1939 г. у Менску насельніцтва ёсьць ужо больш 240 тыс.

Новы, сучасны Менск стаўся так-жа цэнтрам прамысловым Беларусі. (У менскім промысьле працуе больш 35 тысяч рабочых.) Тут пабудавана цэлы рад машынабудаўляных і мэталёваабробчых заводаў і фабрыкаў. Вырабы Менска шырока разыходзяцца ня толькі па ўсім Савецкім Саюзе, але масава экспартуюцца й заграніцу. Менск, між іншым, вызначаецца вялікім вырабам скураў розных сартоў.

Менск разросься і ў вялікі цэнтр культурнага жыцьця. Ёсьць там цяпер 45 школаў з лічбай вучняў больш 30 тыс. і больш тысячы вучыцялёў. Горад утрымлівае 85 дзіцячых садоў. У Менску існуе Акадэмія Навук, 12 вышэйшых навуковых установаў, 18 тэхнікумаў, 7 рабфакаў і 12 фабрычна-завадзкіх школаў.

Сяньняшні Менск разбудаваўся да непазнаньня. Уздоўж магістралі Барысаўскага трахту цягнецца аграмадны будынак Акадэміі Навук Б. С. С. Р., клінічны гарадок, Палітэхніка, Дом друку і інш. У цэтры гораду пабудаваны новы гігант-дом 11-ці паверхавы, упрыгожаны мармурам навонкі,гэта дом Ураду БССР. Насупроць,камплекс будынкаў Унівэрсытэцкага гарадка. Далей будынак Дзяржаўнага Банку, дом чырвонай арміі, вялікі будынак Тэатру Опэры й Балету, Бібліятэка і шмат іншых. Апрача таго, замест даўнейшых брукаваных нячэсаным каменем, а пераважна небрукованых вуліц—сяньня Менск асфальтаваны. Замест даўнейшай конкі — сяньня электрычная энэргія гоніць па ўсім Менску сучасныя эўрапэйскія трамваі. Замест вазьнікоў на худых конях, пасажыраў возяць лёгкавыя аўтамашыны. Пры тым сады й паркі Менска даводзяцца да эўрапэйскага выгляду. Сьвіслач прыводзіцца да прыгожага выгляду дзякуючы рэгуляцыі берагоў.

Усё гэта добра. З усялякіх здабыткаў, гаспадарч. і культурных ў Сав. Беларусі, мы шчыра цешымся, але адначасна глыбока смуцімся,штоСав.Беларусь знаходзіцца пад чужым ярмом і ня мае ніякай магчымасьці на поўнае палітычнае, культурнае й гаспадарчае разьвіцьцё.

Ня маем таго, што здабылі нашыя суседзі, якія разам з намі цярпелі ў царскай няволі.

*А. Полацкі*

---

—„Lavonicha."

— A, hetu ŭžo znajem, znajem.

I nie zvažajučy na heta „znajem", hrymnuła pry kancy takaja bura vopleskaŭ, što zdavałasia rassadzić ścieny zali j całaha domu. Artyst musiŭ viarnucca, kab jašče adśpiavać pieśniu „Cieraz sad vinahrad", a paśla, ci lepš skazać pa bury vopleskaŭ, jakaja vybuchła pa hetaj pieśni, — jašče adnu — „Kukavała ziaziulka"

Publika chvalujecca, choča ŭściaž novych i novych „dadatkaŭ". Heta adnak užo nieŭmahatu artystu, jaki j tak u „dadatku" daŭ dvojčy hetulki, kolki było pradbačana ŭ prahramie.

Na estradzie źjaviŭsia jšče haspadar zborki, kab padziakavać prysutnym za... prysutnaść, kab apraŭdacca z „Prima vera" i inšych niepaleskich numaroŭ prahramy i kab zaprasić u siabry samaha „T-va Rozvoju Ziem Uschodnich". Usio heta adnak čuli tolki apošnija z tych, što nie paśpieli jšče vyjści z zali. Tamu nia dziva, što ŭsie minajuć stoł, z-za katoraha zaprašvajuć da zapisu, i vychodziać až na vulicu, kab pravieści ci pahutaryć z vykanaŭcami prahramy zborki. Chutka prachodziać „dziarscy chłopcy", valniej za imi, u tavarystvie troch kabiet, prachodzić adv. Skurevič. Zabejdzie Sumickamu zaharadziła darohu hramada maładych chłapcoŭ, jakija z artystam ab niečym žyva havorać. Chłopcy — adzin u adnaho: usie rosłyja, strojnyja, viasiołyja. Heta, akazvajecca, biełaruskija studenty z Varšaŭskich vyšejšych škołaŭ. Jany z afišaŭ i hazet daviedalisia ab vystupleńni Zabejdy j pryjšli jaho pasłuchać, a pasłuchaŭšy — padziakavać. Jość siarod ich i aŭtentyčnyja *palešuki* j jany najbolš radyja, što pačuli svaju rodnuju paleska-biełaruskuju pieśniu ŭ tak mastackim apracavańni j vykanańni. I nie darma.

* * *

Skončyŭsia „tydzień". Papłyvuć chiba-ž „na ŭschod" masavyja ekskursii, kab tut zakładać asnovy pad „krepaść polščyny", ab čym u „tydni" cely čas havaryłasia j zaklikałasia. Nie piaršynia heta. A „ŭschod", asabliva „ŭschod" paleski, jak byŭ, tak i astaŭsia samym saboju, pa misyjanerach-ža ślady nie astajucca. Rana siańnia chiba jšče havaryć, jakaja budučynia hetaha „ŭschodu". Dźvie rečy adnak pry hetym treba pamiatać: 1. što „ŭschod" hety nia jość „ničyim", što na im sprad viakoŭ žyvie narod i to žyvie tak husta, jak redka dzie ŭ inšym miescy na śviecie, i 2. što huściejšaje zasialeńnie ŭschodu mahčymym było-b tolki tady, kali-b niaŭžytki hruntu stalisia ŭradžajnymi polami j sienažaciami.

*B. spad Varšavy.*



## Biełaruskaja chronika

**Novyja biełaruskija dachtary.** U kancy m-ca červienia siol. končyli navuki na medycynskim fakultecie Vilenskaha Universytetu j atrymali dyplomy lekaraŭ studenty Biełarusy: Mikałaj Ščors i Vitaŭt Tumaš. Novych biełaruskich dachtaroŭ vitajem i žadajem dalejšaje karysnaje pracy na biełaruskaj adradženskaj nivie!...

**Viečar biełaruskaje litaratury ŭ Sajuzie Polskich Litarataraŭ u Varšavie.** 3.VII siol. u Varšavie ŭ Sajuzie Polskich Litarataraŭ adbyŭsia viečar pryśviečany biełaruskaj litaratury. Viečar pačaŭ pramovaj staršynia polskich litarataraŭ, viedamy piśmieńnik F. Geotel, jaki vyraziŭ žal, što dasiul polskija litaratary nie paznajomilisia bližej z litaratarami biełaruskimi j ichniaj tvorčaściaj, a tak-ža vykazaŭ pažadańnie, kab stałasia heta ŭ najbližejšym časie. Referat ab biełaruskaj litaratury pračytaŭ Gińka. Paśla vystupaŭ Maksim Tank, katory napačatku pračytaŭ vierš J. Puščy da paetaŭ Uschodu i Zachodu, a dalej recytavaŭ svaje tvory pabiełarusku i ŭ pierakładzie na polski jazyk. Viečar hety, na jakim była źviernuta asablivaja ŭvaha na tvorčaść Maksima Tanka, vyklikaŭ siarod polskich litarataraŭ vialikaje zacikaŭleńnie.

**Karta biełaruskaha jazyka.** „Бел. Фронт“ (№ 13 z 1.VII.39) nadrukavaŭ piśmo dr. J. Stankieviča, u jakim vyjaśniaje jon, što zahranicaj vydaŭ chtości „Kartu biełaruskaha jazyka pavodle dr. J. Stankieviča,“ adnak dr. J. St. u hetaj karcie bačyć roznyja niedachopy.

**Šved ab Biełarusi.** Švedzki vučony dr. Colliander vydaŭ sioleta knižku ab pałasie ŭschodnia-eŭrapejskich narodaŭ, u jakoj mnoha miesca paśviaciŭ Biełarusi i biełaruskaj nacyjanalna-adradženskaj prablemie.

**Biełarusy ŭ Francyi pracujuć.** Jak pišuć hazety, biełaruskaja emihracyja ŭ Francyi, nia hledziačy na svaje ciažkija žyćciovyja emihranckija, abstaviny, pravodzić davoli vialikuju pracu. Bieł. emihranty ŭ Francyi, jak viedama, majuć svaju arhanizacyju „Biełaruski Chaŭrus,“ jakaja mieścicca ŭ Paryžy i maje 4 addziely na pravincyi; ładziać roznyja kursy; vydajuć časapisy: „Recha“ i „Biuleteń;“ załažyli nievialikuju drukarniu j biblijateku, pašyrajučy luboŭ da svaje bieł. kultury j rodnaha kraju. 23 IV.39 u „Bieł. Chaŭrusie“ ŭ Paryžy daktar M. Abramčyk pračytaŭ referat na temu: „Biełaruś u minuŭščynie j sučasnaści.“

**Biełarusy na suśvietnaj vystaŭcy ŭ Amerycy.** U Amerycy adbyvajecca vialikaja suśvietnaja vystaŭka kultury, u jakoj pryjmajuć udzieł badaj usie dziaržavy śvietu, a mіž imi i SSSR. I voś dziŭna, što kali Biełarusy j Ukraincy pačali arhanizavać svajo vystupleńnie na vystaŭcy, kab pakazać śvietu svaju pryhožuju pieśniu j tancy, savieckaje pradstaŭnictva rašuča zapratestavała pierad kiraŭnictvam vystaŭki suproć vystupleńnia Biełarusaŭ i Ukraincaŭ. Tady Biełarusy, Ukraincy j Armianie supolna sarhanizavali svajo vystupleńnie, pa-za vystaŭkaj, jakoje pryciahnuła bolš 15 tysiač narodu j zdabyło ahulnaje pryznańnie.

**Z vydavieckaje nivy.** Vyjšaŭ z druku i pradajecca zbornik vieršaŭ S. Chmary p. n. *„Жураўлінfamp шляхам“*. Vyd. S. Siniaka. 32 bač. Z padabiznaj paeta. Cana 50 hr.

## Стрэлы, якія выклікалі Сусьветную Вайну

Сёлета 28-га чэрвеня мінула якраз 25 год, як у Сараеве быў застрэлены аўстрыяцкі насьледнік архікнязь Франц Фэрдынанд і ягоная жонка Софія. Факт гэты быў безпасярэдняй прычынай, якая выклікала Сусьветную Вайну, а стаўся ён у гэткіх абставінах. Аўстрыя мела ў сваіх граніцах і пад сваей уладай частку сэрбскага народу, а рэшта Сэрбаў жыла ў сваім незалежным гаспадарстве. Ясна, Сэрбам у Аўстрыі жылося ня добра і яны маючы падтрыманьне з свайго гаспадарства змагаліся з аўстрыяцкай няволяй рознымі спосабамі. Між іншым паўстала нелегальная тэрорыстычная арганізацыя „Чорная Рука,“ якая пастанавіла забіць аўстрыяцкага насьледніка Франц Фэрдынанда, як прадстаўніка тае аўстрыяцкае палітыкі, якая душыла Сэрбаў. Выкананьне забойства было даручана друкару Габріновічу. Калі-б яму не ўдалося, тады меў гэта зрабіць студэнт Прінціп, або тэрорыст Краніцэвіч у сэрбскім месьце Сараеве, куды князь Фэрдынанд прыехаў на сьвяточнае прыняцьце. Кожны тэрорыст стаяў у іншым месцы на вуліцах, якімі праяжджала князёўская пара са сьвітай. Першы кінуў бомбу Габріновіч, аднак яна не папала ў князя, а раніла генэрала Пацёрка й графа Меріцці. Ня стрымала гэта паездкі князя. Ён прыказаў далей ехаць. Але трывала гэта нядоўга, бо зараз-жа падбег да князевага аўтамабіля студэнт Прінціп і меткімі стрэламі палажыў трупам князя й ягоную жонку. Трэці тэрорыст ня меў ужо чаго рабіць. Забойцаў тут-жа арыштавалі й пасьля засудзілі на вечнасьць у вастрог, дзе яны памёрлі ад сухот.

Забойства князя Фэрдынанда выклікала вялікі зрух. Аўстрыяцкі ўрад, хочучы памсьціць сьмерць свайго князя, захацеў падпарадкаваць сабе ўсю Сэрбію й паставіў ёй такое дамаганьне—ультыматум, якога яна не магла споўніць. Дзеля таго абвесьціла Сэрбіі вайну. Па старане Сэрбіі стала Расея, за Аўстрыю-ж узялася Нямеччына, а далей умяшаліся іншыя гаспадарствы. Гэтак пачалася Сусьветная Вайна.

Але стрэлы 28.VI.1914 г. у Сараеве былі фактычна толькі іскрай да вайны, бо прычынаў яе было ўжо і перад гэтым шмат. Ваеннае напружаньне цягнулася ад 1908 г. Яго стварылі **палітычна-эканамічныя й нацыянальныя адносіны** ў Эўропе. Стварыў яго імпэрыялізм, захопніцтва, эўрапэйскіх вялікадзяржаў, якія зброіліся адны перад другімі, страшылі узаемна сябе манэўрамі, мабілізацыямі, аж урэшце схапіліся да страшэннае барацьбы.

Калі глядзець на сяньняшняе палажэньне ў Эўропе й параўняць яго да палажэньня з прад 1914 году, дык яно надта падобнае. Можа нават сяньняшняе напружаньне ў Эўропе й падрыхтоўка да вайны ёсьць большыя, чымся былі ў 1914 г., адно толькі ня выбухла яшчэ тая іскра, каторая можа нанова запаліць увесь сьвет.

У Сусьветнай Вайне, якая трывала 4 гады, зьгінула 10 мільёнаў чалавек і каля 20 мільёнаў асоб сталася калекамі. Ведамы статыстык Вайтынскі кажа, што калі-б труны забітых паставіць адна каля другой, то занялі-б яны 10 тысяч кілямэтраў, г. зн. больш-менш такую дарогу, як з Бэрліна ў Уладывасток. Аднача сна Сусьветная Вайна прычынілася да таго, што многія паняволеныя народы змаглі ськівуць ярмо чужацкае няволі й стварыць свае незалежныя гаспадарствы. І так паўстала: Польшч, Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндыя і інш. Стараліся выкарыстаць адпаведны ваенны й пасьляваенны час і

# ШТО ЧУВАЦЬ

— У канцы м-ца чэрвеня разыйшліся чуткі, што **Нямеччына** прыгатаўляе на 2 ліпня пераварот у Гданску, у часе якога Гданск меў далучыцца да Нямеччыны. Такія чуткі, ясна, выклікалі напружаньне ня толькі ў **Польшчы**, але й заграніцай. Нямецкая прэса чуткі гэтыя запярэчыла, а англійская, француская й польская цьвердзяць, што Гітлер у апошнюю хвіліну стрымаў пераварот, бо перакнаўся, што Англія, Францыя пастанавілі аружна памагчы Польшчы ў выпадку нападу на Гданск. Аб помачы Францыі зрабіў заяву францускі мін. Боннэ, аб помачы-ж Англіі гаварыў пасьля (10.VII) ангельскі прэм'ер Чэмбэрлен. Цікава аднак, што Чэмбэрлен паклікаючыся на словы канцлера Гітлера й мін. Бэка многа гаварыў аб патрэбе мірнага вырашэньня гданскае праблемы. Міма таго, што ў Гданску пераварот не адбыўся, прыехала туды многа г. зв. турыстаў, пераадзеты па цывільнаму гітлераўскіх штурмавікоў; дастаўлена так-жа туды шмат аружжа й Гданск украпляецца, арганізуючы ахвотніцкі корпус, які ўжо налічае некалькі тысяч мужчын. 25.VIII прыяжджае ў Гданск нямецкі ваенны карабель „Коэнігсбэрг.“ Але ўсё-ж такі й у справе Гданска й агулам у палітыцы наступіла маленькае адпружаньне. Як доўга гэта будзе трываць, няведама. Некаторыя кажуць, што адпружаньне патрывае цэлае лета, пакуль будзе жніво, а пасьля — пад канец жніўня й у верасьні— пачнецца аканчальная разыгрыўка. Дзеля таго ў Францыі, Англіі, а так-жа і ў Польшчы ў прэсе паяўляюцца заклікі да насельніцтва рабіць запасы прадуктаў, каб на выпадак вайны ня было нястачы ежы.

---

Беларусы, каб стварыць сваё незалежнае гаспадарства. Нажаль Беларусам гэта не ўдалося. Сусьветная Вайна зьмяніла ў Эўропе граніцы не да пазнаньня. Дзеля таго, кожны сьледзячы за цяперашнім напружаньнем у палітыцы і ваенных падрыхтоўках, мімаволі пытаецца, а што-ж прынясе новая, будучая сусьветная вайна?...

*З. Б.*

— Хоць наступіла адпружаньне, але палітыкі ўсьцяж радзяцца, адбываюць розныя паездкі. Між іншым 5.VII прыяжджаў у **Нямеччыну** й быў там 5 дзён **баўгарскі прэм'ер Кіосэіванов.** Справа ў тым, што Баўгарыя хоча, каб **Румынія аддала ёй правінцыю Добруджу, Грэцыя—Тракію, а Югаславія — частку Македоніі.** Нямеччына баўгарскія дамаганьні падтрымлівае, бо яны разьбіваюць еднасьць усіх гэных балканскіх гаспадарстваў, якія хоча сарганізаваць Англія й Францыя, ды разам з Турэччынай накіраваць іх супроць Нямеччыны й Італіі. У сувязі з паездкай Кіосэіванава разайшліся погаласкі, што Баўгарыя далучаецца да восі Бэрлін-Рым. Аднак Кіосэіванов, едучы ў Бэрлін, заяжджаў у Югаславію да князя Паўла на нараду й пасьля вяртаючыся зрабіў тое самае, а прыехаўшы ў сваю сталіцу заявіў, што Баўгарыя ня прыступае да ніякага блёку, ані восі, і займае становішча нэўтральнае. — **Югаславянскі-ж князь Павал,** каторы ня так даўна гасьціў у Бэрліне, у хуткім часе мае ехаць у Лёндын і Парыж.

— **Італіянскі** міністр загранічных спраў Чіяно 10.VII. прыехаў у Гішпанію. Спатыкаў яго ген. Франко вельмі ўрачыста. Аднačасна было прыгатавана й іншае прыняцьце: каля Саляманкі быў узарваны склад пораху, ад чаго згінула 80 асоб і 1500 ранена, больш 1000 дамоў зусім разбурана; былі ўзрывы бомбаў і ў іншых месцах; шмат дзе былі й забурэньні. Арганізавалі ўсё гэта быццам праціўнікі ген. Франка і гішпанска-італьянскага паразуменьня. Гішпанія пакульшто не прыступіла да восі Бэрлін-Рым, хоць гэтага ў часе паездкі мін. Чіяно шмат хто спадзяваўся. Нават Франко заявіў прадстаўніком прэсы, што на выпадак вайны Гішпанія будзе старацца быць нэўтральнай. Англія й Францыя хочуць перацягнуць Гішпанію на свой бок, тымбольш, што Гішпаніі патрэбная грашовая пазыка на адбудову краю, а грошы маюць Англійцы й Французы. Аднак ген. Франко моцна ўсё-ж зьвязаны з Нямеччынай і Італіяй, хоць да іхняй восі афіцыяльна ня прыступіў.

— **На Далёкім Усходзе** Кітайцы далей непаддаюцца, а ў многіх мясцох нават наступаюць на Японцаў.

— **У Тьентсіне** пасьля малога адпружаньня адносіны англійска-японскія йзноў завастраюцца. Японія ўсякімі сіламі стараецца выціскаць Англію з Кітаю. Кажуць некаторыя, што Японія гэта робіць на просьбу Бэрліна, каб разьбіваць увагу й сілу Англіі.

— **Японска-бальшавіцкія баі** на граніцы манджурска-мангольскай далей ідуць і завастраюцца. Хто іх пачаў, дасюль ня высьнена. Адны кажуць, што бальшавікі, каб памагчы Чан-Кай-Шэку, адцягваючы японскія сілы з кітайскага фронту, а другія — што Японія, каб страшыць бальшавікоў пры перагаворах з Англіяй і Францыяй у справе саюзу. Другі пагляд прадстаўляецца непраўдападобным, бо наступ Японіі ў Тьентсіне й агулам у Кітаі на Англійцаў і іхняя інтарэсы, а так-жа наступ на бальшавікоў панукае Англію й СССР да хутчэйшага падпісаньня саюзу.

— **Тымчасам Англія, Францыя й СССР** ніяк ня могуць дагаварыцца. Саветы ўсьцяж высоўваюць новыя дамаганьні. Некаторыя кажуць, што СССР цяпер ня хоча рабіць ніякага саюзу, а зробіць гэта ў часе вайны, каб лепш тады скарыстаць і каб у аслабленых вайной гаспадарствах заводзіць камуністычны лад.

— Парлямэнт **Злуч. Штатаў Амэрыкі** пастанавіў, што Злуч. Штаты пакульшто будуць нэўтральнымі, а як будзе пасьля, пакажа будучыня.

— **Англію** ўсьцяж непакояць Ірляндцы, робячы розныя шкоды, выклікаючы пажары, кідаючы бомбы і г. д. Ірляндцы дамагаюцца, каб англійскае войска пакінула іхні край. Ірляндцам у сабатажы быццам памагае Нямеччына.

—**Адносіны англійска-француския** што раз больш зьбліжаюцца. Дайшло ўжо да таго, што англійскае войска прыяжджае ў Францыю на манэўры. Бралі такжа Англійцы ўдзел у нацыянальным сьвяце Францыі 14.VII, якое адбылося вельмі ўрачыста.

— **З Літвы** прыехала на два тыдні ў Польшч на экскурсію група літоўскіх публіцыстаў, якія адведваюць усе галаўнейшыя асяродкі, знаёмячыся з польскім жыцьцём.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.






## Купальскі вечар

**Таранды, Дзісенскі пав.** Паміма таго, што моладзь наша жыве без арганізацыяў, аднак часамі ладзяцца ў нас розныя традыцыйныя сабраньні, вечарыны, у часе якіх адбываюцца танцы, сьпевы, а нават дэклямацыі вершаў, і такім чынам праводзіцца час даволі культурна.

Сёлета прышлося мне быць на Купальскім вечары ў Тарандах, дзе была сабраўшыся моладзь на чыста вымеценым панадворку аднаго хутарскага гаспадара і прыгожа праводзіла чароўную кунальскую ноч. Хлопцы запалілі веху, дзяўчаты-ж пры ёй сьпявалі купальскія песьні, ды так неяк дабраліся, што сьпеў у іх выходзіў нязвычайна прыгожа. Найлепшае ўражаньне й захапленьне было тады, калі сьпявалі старыя беларускія песьні, у якіх успамінаўся слаўны наш Полацак. Вось адрывак з аднае песьні:

А на гарэ царкоўка,
Ды на вярху крыжоўка,
Там сядзіць ластоўка,
Яна сядзіць высока,
Яна відзіць далёка,—
Што ў Полацку дзеіца,
Аж сем мальцаў жэніцца..

Таксама вельмі прыгожа была адсьпявана песьня: „Ой ляцелі гусі“.

У перарывах сьпеву адбываліся танцы, так што вечар прайшоў вельмі міла й весела. Наша моладзь усюды й заўсёды павінна любіць і шанаваць свае беларускія песьні, а гэтым самым здабудзем сабе й сваіму народу сярод культурных людзей пашану й славу.

**Г. Д.**

## Pan jedzie na mužyku...

**Morač, Niaśviski pav.** U hetym hodzie, jak i zaŭsiody, pany na čale z Radziviłam ładzili ŭ našaj puščy palavańnie. Ab tym, jak jany pili j hulali, pisać nia budu. Heta kožny dobra viedaje. Ja apišu adzin sumny abrazok, jaki byŭ u časie hetaha palavańnia. Było heta tak: adzin puzaty pan niejak adbiŭsia ad svajej kampanii i apynuŭsia miž sialan-hancoŭ. Panskaje tavarystva pryšłosia jamu dahaniać praz bałota, u jakoje panu nie chaciełasia leźci. Tady jon naniaŭ sabie za załatoŭku sielanina, sieŭ jamu na kark i toj, abłivajučysia potam, pavałok jaho na druhi bok bałota...

o:o

Chłopcy z našaj vioski pracavali j pracujuć na kalejcy pry hruzcy kałod. Pracu hetu atrymali jany ad nadleśnictva. Hruzka — heta praca vielmi ciažkaja, za jakuju naležała-b rabotnikam atrymlivać adpaviednuju płatu. Ale, nažal hetaha niama. „Našyja“ pany ličać i płaciać za rabotu tak, jak chočuć, i dziela taho ludziam dzieicca nia raz vialikaja kryŭda.

Ahułam na vioscy sialanam ciažka žyviecca, dziela taho musim šukać vychadu, musim imknucca da palepšańnia svajho bytu ŭsimi siłami, zdabyvajučy aśvietu, arhanizujučysia j stojka trymajučysia svajho nacyjanalnaha bielaruskaha hruntu.

**M. Kancavy**




**Biełastockija tekstylnyja tavary na Dalokim Uschodzie.** Vyvaz zahranicu tekstylnych tavaraŭ z Biełastoku sioleta pavialičyŭsia na 50 prac. Pryčynilasia da hetaha pierad usim vialikaje zapatrabavańnie henych tavaraŭ na dalokim uschodzie, na kitajskim rynku. Ahułam, u mai miesiacy sioleta vyviezieno zahranicu tekstylnych tavaraŭ kala 125 tysiač klh. na sumu 500 tysiač złotaŭ. U krasaviku h. h. vyviezieno 60 tys. klh. na sumu 239 tys. zł

**Na Paleśsi šaleje tyfus!** Pad hetkim nazovam 6. VII. 39 „Słowo“ źmiaściła artykuł dr. V. Voydyłło, u jakim piša jon, što na Paleśsi ad času suśvietnaje vajny tyfus nia hinie. Epidemija tyfusu ŭściaž pajaŭlajecca i źbiraje svajo strašennaje žnivo. Tymčasam baraćba z tyfusam nie pravodzicca nijakaja. Voś-ža, ci nia lepš było-b „Tovažystvu Rozvoju Ziem Vschodnich“ zamiest układać plany ab kalanizacyi Paleśsia zaniacca tam baraćboj z epidemijaj tyfusu!

**Pamiatnik łastaŭkam.** Žychary adnaje miascovaści ŭ Kalifornii (Ameryka) sioleta pastavili pamiatnik łastaŭkam. Pryčyna hetaha była nastupnaja: 6 hadoŭ tamu ŭ hetaj miascovaści nia było ani adnaje łastaŭki, pry tym kolkaść chvorych ludziej na malaryju z hodu-ŭ-hod pavialičałasia. U 1934 h. pryviezieno tudy 100 štuk łastavak. I praz hod kolkaść vypadkaŭ malaryi źmienšyłasia na pałavinu, a ŭ 1938 h. łastaŭki, što za heny čas vielmi mocna razmnožylisia, źnistožyli badaj zusim vielmi raspaŭsiudžanaha tam kamara, katory raznosić malaryju. Dyk, voś za heta ŭdziačnyja žychary taje miascovaści pastavili dla łastavak pamiatnik.

**Babrujsk — kuracyjnym miestam.** Kamisaryjat zdaroŭja S.S.S.R. pastanaviŭ u m. Babrujsku ŭ Savieckaj Biełarusi adkryć cełу rad kuracyjnych damoŭ i špitalaŭ. U mieście hetym niadaŭna natrapili na žarołу lačničaje vady. Pieršyja proby karystańnia z henych žarołaŭ dali vielmi dobryja vyniki.

### *Paštovaja skrynka*

**U. A.:** Vieršy vysłanyja na adrys knihami „Pahonia“ atrymali. Nažal, słabyja j da druku nie padchodziać. Radzim pisać karespandencyi.

**Hajkoviču Č.:** Pamahčy matarjalna sami biezpasiaredna, abo pamahčy Vam zdabyć pałohki, pomač, nia možam. U spravie pastupleńnia ŭ himnaziju i ŭ spravie apłataŭ źviartajcieśia da dyrekcyi Bielaruskaje Himnazii: Vilnia, Daminikanskaja vul. 3.

**H. D.:** Karespandencyju drukujem, vieršy słabyja. Prosim pisać dalej. Pryvitańnie!

**Kiško N.:** Časapis vysyłajem Vam akuratna i prosim damahacca na pošcie. My z svajho boku budziem taksama staracca, kab časapis naš dachodziŭ da Vas biez pieraškod.

# Беларуская Філія Дзяржаўнай Гімназіі ім. А. Міцкевіча ў Вільні

**Адрас: Wilno, ul. Dominikańska 3/5.**

Гэтым абвяшчаецца, што 29 жніўня 1939 г. пачнуцца ўступныя экзаміны ў Віленскую Беларускую Дзяржаўную Гімназію

## Варункі прыйма:

У I клясу прыймаюцца хлапцы й дзяўчаты, якія: 1) маюць ня менш 12 і ня больш 16 гадоў і 2) скончылі 6 (шэсьць) ці 7 сем) аддзелаў пачатковай школы.

Пры паступленьні ў I клясу кандыдаты(кі) здаюць праверачны экзамін з польскае мовы, беларускае мовы, матэматыкі, гісторыі, геаграфіі й прыроды. (Пры экзаміне з беларускае мовы трэба ўмець чытаць і пісаць).

У II і III клясу прыймаюцца дзеці на падставе экзаміну з усіх прадметаў у абыйме праграмы I і II клясы гімназіі.

Заявы прыймаюцца да 29 жніўня 1939 г. Да заявы трэба далучыць: 1) мэтрыку, 2) школьнае пасьведчаньне, 3) пасьведчаньне аб прышчэпе воспы, 4) дэкларацыя аб тым, што кандыдат па нацыянальнасьці — Беларус, ды пераслаць на Р.К.О. (бланкет можна купіць на кожнай пошце) 10 зл. за экзамін на наступны адрас: I Państwowe Gimnazjum im. A. Mickiewicza — Filia Białoruska — w Wilnie. P.K.O. № 703304.

**Увага: Тыя, што нездалі ўступнага экзаміну вясной могуць падгатавацца й здаваць экзаміны 29 жніўня.**

„Шлях Моладзі“ друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная вул. 1—2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ“ выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар картатэкі „przekazu rozrachunkowego“ 59.

Wydawca: „Bielpres“. Drukarnia Białoruska im. Franciszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1 Redaktor: J. Najdziuk.
Выдавец: „БЕЛПРЭС“. Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.